Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 12 (34) ВІЛЬНЯ, 7 СЬНЕЖНЯ 1938 г. ГОД III

## Беларуская эміграцыя.

Да сусьветнай вайны шмат беларусаў штогод выяжджала ў чужыя краі, шукаючы там лепшае долі. Гэтая эміграцыя кіравалася пераважна ў расейскія гарады, Сібір, ды ў Паўночную Амэрыку, хоць шмат беларусаў эмігрантаў можна было спаткаць і ў розных краях Эўропы. Прычыны даваеннай эміграцыі былі натуры эканамічнай — шуканьне лепшых заработкаў, лепшых варункаў жыцьця. Эмігранты, выяжджаўшыя ў далёкія краі, як Амэрыка, Сібір, выяжджалі назаўсёды, без надзеі павароту ў Бацькаўшчыну. Сувязь іх з краем абмяжоўвалася да рэдкай карэспандэнцыі з раднёй і часамі да прысылкі грошай гэтай-жа радні. Глыбейшай духовай лучнасьці з краем, як агульнай Бацькаўшчынай усіх беларусаў, не выяўлялася.

Сусьветная вайна і расейская рэвалюцыя выклікалі вялікія перамены і ў жыцьці беларускае эміграцыі. Перш-наперш многа беларусаў вярнулася дамоў з расейскіх гарадоў, а па другое — зачыніліся дзьверы для шырэйшай эміграцыі з краю без намеру павароту дамоў. Паўстала магчымасьць толькі эміграцыі *сэзоновай*. У вапошнім прыпадку беларус-эмігрант, выяжджаючы з краю, лічыцца з тым, што раней ці пазьней ён вернецца дамоў, што выезд яго ёсьць часовым. Гэта не дазваляе яму парываць сувязі з краем і прымушае цікавіцца ўсім тым, што тут дзеіцца. Напасьледак толькі пасьля сусьветнай вайны і расейскай рэвалюцыі можна казаць і аб паўстаньні беларускае *палітычнае* эміграцыі.

Гэткім чынам беларусы маюць сяньня раскіданую па ўсіх краёх сьвету сваю эміграцыю, агульны лік якой даходзіць да 2 мільёнаў. Найбольш беларускіх эмігрантаў ёсьць у Францыі, Злуч. Шт. П. Амэрыкі і Канадзе. Зразумела, што пакуль сярод гэтай масы ня было беларускай палітычнай эміграцыі, або пакуль не зьявілася, між ёй беларуская сьведамасьць, прынамся ў вадзіках, не магчыма было казаць аб якім-колечы значэньні гэтай эміграцыі ў вагульным беларускім руху, які агарнуў край. А гэта было вялікай стратай для беларускага руху, якую дасканальна разумелі нашыя „брацьця-славяне". Гэтыя „брацьця" дакладалі і дакладаюць усіх натугаў, каб загарнуць эмігрантаў беларусаў у свае арганізацыі, кідаючы розныя паклёпы на беларускі народны рух. Трэба сьцьвердзіць, што ў значнай ступені гэта ім удавалася, а нават удаецца і цяпер. Прычынамі гэтага зьявішча ёсьць з аднаго боку малая нацыянальная сьведамасьць беларускае эміграцыйнае масы, а з другога — малая заінтэрасаванасьць сваёй эміграцыйнай масай з боку даволі шматлікай беларускай палітычнай эміграцыі. Апошняя, апынуўшыся за межамі Бацькаўшчыны, сама аказалася ўцягнутай у калавара́т „вялікіх ідэяў," падзялілася на групкі і даўгі час не зьвяртала німа ўвагі на масу, да працы сярод якой яна ў першую чаргу была паклікана.

Толькі ў вапошнія часы наглядаецца зварот да лепшага ў жыцьці нашай эміграцыі. У розных краёх, а наўперад у Францыі, Канадзе, Паўднёвай Амэрыцы, ажыўляюцца беларускія эміграцыйныя цэнтры, якія зьвярнулі вялікую ўвагу на эміграцыйную масу і павялі працу між ёй. Асабліва дадатна з гэтага гледзішча прадстаўляецца справа ў Францыі. „Французскі" цэнтр хоць наймалодшы, але прадстаўляецца найлепш і высоўваецца выразна на першае месца. Ён-жа стараецца зьвязацца з іншымі эміграцыйнымі беларускімі арганізацыямі, дзе яны ёсьць, а нават выдае свой прэсавы орган, праўда, пакуль што на шапіграфе.

Вялікую работу для свайго народу робяць тыя Беларусы-эмігранты, што за межамі Бацькаўшчыны не пакідаюць беларускае справы. Заданьні іхняе працы вялікія і разнаякія, але галоўна, яны зводзяцца да наступных двух пунктаў: 1) праца над *асьведамленьнем* эміграцыі ў нацыянальным і соцыяльным кірунках, 2) *прапаганда* беларускае справы за граніцай. Заданьні гэтыя натолькі зразумелыя і актуальныя, што спыняцца над іх тлумачэньнем было-б лішнім. Трэба толькі падчыркнуць, што ў працы гэтай кожны беларус эмігрант павінен кіравацца думкай, што ён ёсьць неадраўнай часткай народу і што народ гэты складаецца з працоўных масаў сялянства, работнікаў і інтэлігэнцыі. Адно гэта вытыкае ясны шлях дзеля асьведамляючай працы на эміграцыі.

На аснове вестак, што да нас даходзяць, выглядае, што сьведамая беларуская эміграцыя гэтак гэту задачу разумее. Мы лічым, што ў гэткіх краёх як Францыя, Канада, Злучан. Штаты існуюць шырокія магчымасьці працы над асьведамленьнем беларускай эміграцыі, патрэбна толькі арганізацыя і каардынацыя собскіх сілаў, ад чаго і будзе залежаць посьпех у працы. Апошняй мэтай гэтай працы будзе стварэньне з эміграцыі сьвядомай і зарганізаванай беларускай масы за граніцай, дзе-б яна ня была. Ужо існаваньне гэтакай масы было-б добрай прапагандай беларускай справы за граніцай. Але пакуль да гэтага дойдзе, беларуская эміграцыя раўналежна з працай над асьведамленьнем павінна дзе толькі можна прапагаваць беларускую справу, каб заграніца мела ясьнае прадстаўленьне, хто такія беларусы, дзе ёсьць Беларусь, чаго хочуць беларусы і г. д. Ня трэба падчырківаць спэцыяльна, што азнаямленьне заграніцы з беларускім пытаньнем мела-б вялізарнае значэньне. Трэба спадзявацца (цяперашнія праявы на гэта паказваюць), што сьвядомая беларуская эміграцыя не пашкадуе захадаў каля гэтай справы і заданьні свае перад народам споўніць.

## КАЛЯ КАРПАЦКАЙ УКРАІНЫ.

Пару месяцаў таму хтоб спадзяваўся, што гэты малы край, які дагэтуль называўся „Закарпацкая Русь", а цяпер завецца „Карпацкая Ўкраіна", наробіць столькі шуму, станецца вузлом вялікай і глыбокай дыпляматычнай ігры, а нават пераменіць уклад палітычных сіл на ўсходзе Эўропы? Аднак усё гэта сталася — і далей яшчэ гэты край прыцягвае да сябе ўвагу ўсей Эўропы. Трэба сьцьвердзіць, што з падзеямі каля Карп. Украіны зьвязаны цяпер падзеі ўсяе Ўсходняе Эўропы. Дык прыгледзімся да справы Карпацкай Украіны бліжэй.

Вельмі добра гэту справу ўняў „Kurjer Wil." (30. XI.), які піша, што Закарпацьце будзе меркаю заінтарасаваньня Нямеччыны на Ўсходзе. У рэзультаце дыпляматычнай акцыі каля Закарпацьця дайшло да таго, што **або** створыцца супольная польска-вугорская граніца і два гістарычныя народы загародзяць Нямеччыне дарогу на Ўкраіну, **або** Польшч і Вугрыя астануцца разьдзеленыя карыдорам, у каторым будуць гаспадарыць немцы, прыгатаўляючы для сябе шлях на Адэсу. У гэтым выпадку Польшч былаб узята ў клешчы: ад поўначы былаб Усходняя Прусія, а ад паўдня — Славакія і Закарпацкая Русь. Далей „Kur. Wil." кажа, што ігра яшчэ ня скончана. Аднак здаецца, што дагэтуль перавага ў гэтым змаганьні знаходзіцца ўсьцяж на старане нямецкай.

Трэба прызнаць, што Польшч у справе Закарпацьця выявіла шмат энэргіі. Даволі прыпомніць стараньні польскай дыплямацыі, аб якой мы пісалі ў папярэднім нумары; цяпер жа трэба адзначыць акцыю польскага грамадзянства ў гэтай справе. Дня 25. XI. у Варшаве было склікана веча, прысьвечанае справе Закарпацьця. Веча склікаў Прэсавы Камітэт дзеля змаганьня за супольную польска-вугорскую граніцу. На гэтым вечы ўсе прамоўцы кончылі свае прамовы заклікам: „Польская армія на Закарпацкую Русь"! Заклік быў энтузыястычна падхопліваны прысутнымі, якія ў сваіх рэзалюцыях дамагаліся ад ураду, рашучых крокаў у справе Закарпацьця. Пасьля гэтага „Słowo" (18. XI.) пісала, што Закарпацьце — гэта пісталет, скіраваны ў паўднёва-ўсходнія землі Польшчы, а „Merkuryusz Polski" (Nr; 45) пісаў, што „супольная граніца будзе; раней ці пазьней, з праліцьцем крыві ці без праліцьця, але будзе. І тут нічога не памогуць ані пастановы ў Вене, ані пратэсты Прагі, ані інтрыгі Бэрліна".

Як бачым, дамаганьні польскага грамадзянства і польскай прэсы ў справе Закарпацьця вельмі рашучыя. Пытаньне — чаму? Адказ — пры існаваньні Карпацкай Украіны Польшч былаб загрожана Нямеччынай, як гэта было ўжо сказана вышэй. Апроч гэтага супольная граніца з Вугрыяй была палітычным тэстамэнтам марш. Пілсудскага, які гэтай справе прыдаваў вялікае значэньне... Дня 2. XI. была пададзена ў сойме паслом Дудзінскім інтэрпэляцыя, чаму не выкананы тэстамэнт марш. Пілсудскага?

Трэба прызнаць, што ключ да Закарпацкай справы дзяржыць сяньня ў сваіх руках Нямеччына. Гэта прызнаюць усе. Орган нямецкіх (камунізуючых) эмігрантаў „Schaubühne" (Nr. 44) так характэрызуе сяньняшнюю нямецкую палітыку: „Пасьля судэцкай перамогі немцы ў Бэрліне мелі два выхады: або Карп. Русь мелаб прыпасьці Вугрыі, якая праз яе мела гранічыць з Польшчаю і тады абодва краі быліб уцягнуты ў рады нямецкай саюзнай сыстэмы; або карпатарускі карыдор меў стацца выпадовай брамай. Гітлер рашыўся на другі выхад. Карпатаруская пазыцыя натолькі важная для Трэцяй Нямеччыны, што яна рашыла жорстка паступіць з прыпушчальнымі саюзьнікамі польскімі і вугорскімі

і прыгатовіць ім нават загранічна-палітычнае паражэньне. Перад вачыма нямецкага дзяржаўнага кіраўніцтва стаіць вяліка-ўкраінская васальная дзяржава, як гэта было ў часе вайны“. (гл. „Нова Зоря“ 13. XI. 38).

Гэтая характэрыстыка нямецкага часапісу адносна нямецкай палітыкі, здаецца, правільная. Нямеччына кіруецца на Усход. Каб мець забясьпечаныя тылы на Захадзе, Нямеччына стараецца навязаць добрыя зносіны з Англіяй і Францыяй і заключыць з імі дагаворы аб ненападаньні. Такі дагавор ужо падпісаны з Англіяй на ведамай канфэрэнцыі ў Мюнхэне (30. IX.), а з Францыяй будзе падпісаны гэтымі днямі ў Парыжы, куды едзе Рыбэнтроп. Маючы гэтыя пакты, Нямеччына думае скіравацца на Усход.

Кажуць, што дзьве рэчы магліб удзяржаць Нямеччыну ад усходняй экспансіі: пагроза на Захадзе і сіла на Усходзе. Першая рэч, пасьля падпісаньня дагавораў ад ненападаньні з Англіяй і Францыяй, здаецца, ня існуе. Прыгэтым трэба яшчэ ўзяць пад увагу сяньняшнія нутраныя труднасьці Францыі (прэм’ер Далядье граміць французскі „людовы“ фронт); а на Усходзе процiў Нямеччыны пачала тварыцца сіла...

Маем на думцы польска-савецкае (і польска-літоўскае) зьліжэньне. У справе польска-савецкага паразумленьня варта паслухаць, што піша „Ilustrowany Kurjer Codzienny“. Ён кажа, што французская і англійская прэса з задаваленьнем прынялі вестку аб польска-савецкім паразумленьні; толькі нездаволены нямецкая і ўкраінская прэса. Аднакаж, хто як хто, піша далей ІКС, але гэта-ж немцы і ўкраінцы зрабілі ў апошніх тыднях што толькі маглі, каб давесьці да польска-савецкага паразумленьня. І сталася гэта з прычыны Падкарпацкай Русі, якой не зьвярнулі Вугрыі! Украінская прэса бачыць у польска-савецкім дагаворы яшчэ адну рэч, якой у ім няма: антынямецкае вастрыё. Немцы цяпер неканечне маюць ісьці на Ўсход. А што датыча ўкраінскай справы, дык высоўваньне гэтай праблемы і процiў Расеі і процiў Польшчы мусіць давесьці заўсёды, пры кожным палітычным укладзе сіл, да нямінуючага паразумленьня Польшчы і Расеі. (гл. „Słowo“ 1. XII. 38).

З гэтых слоў справа становіцца яснай: Карпацкая Украіна выклікала новы ўклад палітычных сіл у Усх. Эўропе. Як да гэтага ўкладу аднясецца Румынія і Вугрыя — няма ведама. Першая распраўляецца з сваімі фашыстамі, а другая, як відаць, увойдзе ў нямецкую палітычную сыстэму.

А тымчасам у Карпацкай Украіне ідзе гарачая работа над упарадкаваньнем краю, над правядзеньнем дарог; асаблівую ўвагу зьвернена на будову чыгункі і аўтострады, якія маюць злучаць Карп. Ўкраіну з Чэхіяй і з Нямеччынай. Будова быццам ужо пачалася пры помачы чэскага і нямецкага капіталу. Урад Карп. Украіны творыць аддзелы січовых стральцоў, якія маюць бараніць сваю дзяржаву ад усякай небясьпекі. Украінская прэса прысьвячае многа месца справе Карп. Украіны і з энтузыязмам кажа, што там творыцца вялікае дзела, хоць прызнае, што справа яшчэ гразіць рознымі камплікацыямі. У справе гэтых камплікацыяў алярмуючую вестку прынясла англ. газэта „News Chronicle“, што Нямеччына быццам змабілізавала тры корпусы (каля 110 тысяч), каб мець іх напагатове ў выпадку нейкай пагрозы ідучай да зьмены граніц Чэхаславаччыны. Калiб Чэхія, Славакія або Карп. Ўкраіна паклікала на помач немцаў, кажа газэта, дык тыя пойдуць... Сколькі праўды ў гэтых вестках, згадаць трудна. Адно толькі пэўнае, што справай Закарпацьця заінтарасавалася Нямеччына і гэта прывяло да вялікіх зьмен у ўкладзе паліт. сіл Усходняй Эўропы. Але ці на гэтым канец?

З гэтага ўсяго можам зрабіць такія высновы:

1) Няўдача польскай палітыкі ў тварэньні саюзу г. зв. нэўтральных дзяржаў ад Балтыкі да Адрыятыкі. Праз стварэньне карпацкага карыдору Нямеччына спыніла імкненьне Польшчы да беспасрэдных зносін з Вугрыяй, а далей з Югаславіяй, Італіяй і іншымі.

2) Паўставаньне новага, яшчэ не афармленага, „усходняга пакту“, які ў агульных рысах накінуты ўжо польска-савецкім паразумленьнем і пачаткамі польска-літоўскага паразумленьня. Дагэтуль няведама, як да гэтага будучага пакту аднясецца Румынія, якая цяпер перажывае глыбокі нутраны крызыс. Няведама такжа, як аднясецца да гэтага новага пакту Францыя, аўтарка старога пакту. (У стары пакт, які будаваў нябожчык Брыян, Польшч не ўвайшла, бо не згаджалася прапусьціць праз сваю тэрыторыю савецкай арміі процiў Нямеччыны). Ясна, што будаўніцтва новага пакту будзе залежаць ад націску Нямеччыны на ўсход...

3) Банкроцтва г. зв. славянскай ідэі, якую нядаўна падымаў ген. Жэлігоўскі і „Słowo“. Спасьцерагаецца тут вялікі парадокс, што за далучэньне славянскага Закарпацьця да неславянскай Вугрыі стаялі якраз тыя газэты („Słowo“, „Polityka“), якія найболей расьпіналіся за „славянскую ідэю“.

Усе гэтыя высновы не аканчальны. Палітычнае жыцьцё ідзе цяпер такім скорым тэмпам, што можам спадзявацца яшчэ вялікіх зьмен. Нам здаецца, што Карп. Ўкраіна адыграе ў гэтых зьменах вялікую ролю.

**В. Г.**

# На беларускім грунце

## НА ВЫБАРЫ Ў САМАЎРАД!

У некаторых паветах ужо пачаліся выбары ў самаўрадавыя ўстановы. На першы пачатак ідуць выбары ў г. зв. грамадзкія рады, якія маюць задэцыдаваць аб будучым складзе валасных (гмінных) і паветавых рад. Важна тое, што „выбары грамадзкіх радных адбываюцца на аснове агульнага, тайнага і беспасрэднага галасаваньня“, як кажа 1-шы арт. новага самаўрадавага закону. Дык усе беларусы павінны прыняць масавы ўдзел у выбарах у самаўрады. Самаўрад — гэта ня толькі школа грамадзкага і палітычнага жыцьця, але і важная пляцоўка нацыянальнага жыцьця! Грамадзяне, выбірайце стойкіх і чэсных людзей, сьведамых беларусаў, якія-б з усіх сіл працавалі для краю і народу!

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Праўды не схаваеш.** У часе падзеяў у Друі (высяленьне беларускіх а.а. Марыянаў) п. П. Лемеш, публіцыст з „Кур’ера Віленскага“ захацеў даведацца, хто такія беларусы. З гэтай мэтай ён хоць жыве ў беларускім асяродзьдзі зірнуў у г. зв. „Mały Rocznik Statystyczny“ і знайшоў, што беларусы жывуць на ўсходзе Польшчы і што ёсьць іх аж... 900.000!!

Гэта выглядае гумарыстычна, але ёсьць зразумелым, калі ўзяць пад увагу сьведамае замаўчываньне беларускае праблемы ў польскай прэсе бяз розьніцы кірункаў у вапошнія гады. Беларусаў няма ды і годзі, а калі штосьці беларускае і выплыве на ўзьверх жыцьця, дык польскія нават тутэйшыя публіцысты капаюцца ў лічбах „Małych Roczników Statystycznych“, каб знайсьці адказ, хто такія беларусы і сколькі іх. Быццам гэта нейкае далёкае або вымершае племя ці народ!

Нам дасканальна ведама, чаму яны гэтак робяць. Дзе беларусы жывуць і колькі іх ёсьць, гэтым публіцыстам аж надта добра ведама. Але іхняе, сапраўды гумарыстычнае, становішча мае на мэце паказаць унутры краю, а галоўна заграніцай, што ніякіх беларусаў няма, што ніякая беларуская праблема ня існуе. Беларусаў мала павінна цікавіць першая мэта — асьведамленьне польскага грамадзянства аб беларускай справе. Хочуць яны пісаць, што беларусаў няма — няхай пішуць. Горш было-б, калі-б гэта пісаніна мела якоесь рэха заграніцай. Але нашчасьце трэба сьцьвердзіць, што заграніцай куды лепш ведаюць аб беларусах, чымся тутэйшыя польскія публіцысты. Гэтак прыкладам, як падае „Ilustr. Kurier Codzienny“ а за ім і „Warszawski Dziennik Narodowy“ з 16.XI с. г. ў недаўна выдадзенай у Нямеччыне энцыклёпэдыі Кнаўра на 1723 бачыне аб беларусах пададзена, што ў Польшчы жыве іх больш 3 з паловай мільёнаў. Нават французы ўжо ведаюць ня толькі, дзе беларусы жывуць у Польшчы, але стараюцца аблічыць, колькі іх можа быць, (відавочна не даляраючы паном Лемешам). Гэтак у вадным з першых нумароў франц. тыднёвіка „Illustration“ за лістапад г. г. знаходзім карту, дзе жывуць беларусы ў Польшчы і дадзеныя, што іх ёсьць ня менш 1 з паловай мільёна. І ў вадным і другім прыпадку, як бачым, прапаганда п. п. Лемешаў неяк не мае ніякіх рэзультатаў.

**Чаму ўцякаюць?** Эндэцкая газэта „Głos Narodowy“ (16.XI.38) піша, што цэлы рад касьцёлаў у Вільні ўвёў звычай пяяць па набажэнстве „Boże coś Polskę“, але калі запяюць гэты патрыятычны гімн, дык добрыя тры чверці прысутных на набажэнстве заварочваюцца і пасьпешна выходзяць з касьцёла. „Głos Nar.“ пытаецца, чаму яны гэтак робяць? З пункту гледжаньня польскага такія праявы ёсьць сапраўды трывожнымі, бо калі пяюць гэты гімн жыды ў Кракаве, дык чаму не пяюць палякі ў Вільні? — пытаецца газэта. Далей газэта адзначае, што такое байкатаваньне польскага гімну можа і ня ёсьць выступленьнем антырэлігійным, але ў кожным прыпадку антынацыянальным і антыпольскім.

На наш пагляд выходжаньне з касьцёла падчас пяяньня польскага нацыянальнага гімну ёсьць адзнакай слабай або і ніякай сувязі віл. грамадзянства з польскім патрыятызмам. Дый яно не зьвязана з ніякім патрыятызмам! Гэта ёсьць этнаграфічная маса, якая па сваей псыхіцы можа бліжэй стаіць да беларускага народу чым польскага. Доказам гэтага ёсьць факт, што гэтай масе болей падабаецца і болей трапляе да пракананьня „тутэйшая“ гутарка (жаргон цёткі Альбіновай або радыёвых вечарын), чым чыстая польская (літаратурная) або і народная (мазурская) мова. Віленскае жыхарства з гэтага пункту гледжаньня вельмі цікавае і вымагае глыбейшых этнаграфічных досьледаў.

# З польскае прэсы.

Орган польскіх вайсковых кругоў „Polska Zbrojna“ (20.XI.38) зьмяшчае вялікі артыкул пад заг. „Papierowe kule przeciw polskiej propagandy“. У гэтым артыкуле гаворыцца і аб беларусах — дзеля гэтага падаём яго ўвесь у даслоўным перавадзе.

„Разьмеры ведзенай процiў Польшчы ў апошніх часах прапаганды набралі сілы. Краіны заходняй Эўропы засыпаны картамі і публікацыямі, носячымі нібы навуковы характар — якія маюць выказаць, што ў Польшчы трудна знайсьці палякоў, затое на кожным кроку спатыкаюцца: ўкраінцы, беларусы, жыды, немцы, літоўцы, шлёнзакі, кашубы і г. д. і г. д. А ўжо ўсе землі ўсходнія, на ўсход паза Сан, Буг і Вепр, амаль па самую Варшаву і Кракаў — гэта краіна шчыльна заселеная ўкраінцамі і беларусамі.

„Пасярод картаў, на якіх значныя абшары Польшчы радыкальна „ачышчаны“ ад палякоў, бачым аслаўленыя нямецкія карты др. Лянге і др. Вінклера, карты ў украінскіх атласох і выдавецтвах, у англійскіх часапісах напр. нядаўна ў „The Sphere“. Знаходзім такія карты нават у Італіі, а такжа за акіянам у Амэрыцы. А ў апошніх месяцах у Францыі зьявілася многа такіх тэндэнцыйных карт, напр. некалькі разоў у „Paris Soir“, у тыднёвіку „Illustration“ і ў іншых часапісах. У сучаснасьці выдана ў Парыжы танная „бульварная“ карта, на каторай адзначана, што там недзе каля Варшавы жывуць палякі і жыды, апроч гэтага ў Польшчы жывуць украінцы, беларусы і немцы.

„У чым гэта ляжыць інтарэсе? — цісьнецца лёгічнае пытаньне. Ня будзем на гэтым месцы абгаварваць жарол вышэй успомненай прапаганды, хочам толькі зьвярнуць увагу, што мабілізуе яна бязсумліўна значныя фінансавыя сродкі. А ведама, што заўсёды можна знайсьці вучоных, каторыя ёсьць прыхільнікамі „прытарнаванае навукі“ паводле таго, сколькі хто плаціць. Хочам аднак зьвярнуць увагу, што гэтая прапаганда ў значнай меры карыстаецца дамэтна, нявраз нягодным спосабам, з жарол польскіх або ў Польшчы выданых.

„Некаторыя слаба апрацаваныя, мінімалістычныя працы польскіх вучоных і публіцыстаў пасьляваеннай пары выкарыстоўваюцца сяньня чужою прапагандаю, таксама як некаторыя непрадуманыя публікацыі апошніх гадоў пісьменьнікаў, часта добрае волі, якія, відзячы недахваты нашае (польскае — рэд.) працы і нястачу выразнае праграмы на ўсходзе, стараліся пацягнуць статыстыкі ад’ёмна для абшару пашырэньня польшчыны, з мэтай настрашэньня публічнай апініі.

„Усе гэтыя матар’ялы даюць пажыву загранічнай прапагандзе, якая мае выказаць, што Польская Рэспубліка ня ёсьць нацыянальнай дзяржавай, што польскі элемэнт становіць адносна малую часьць яе насельніцтва і не пануе над большасьцю яе тэрыторыяў. Як прыклад мэтадаў гэтай прапаганды можа служыць хоцьбы квартальнік „Jomsburg“, выдаваны ў Ляйпцігу. У сёлетніх сшытках гэтага квартальніка пад заг. „Die Ostgrenze der polnischen Volkstumsmehrheit“ (Усходнія граніцы польскае нац. большасьці — рэд.) надрукавана даўжэйшая праца п. Доубка. Прыточваем з яе даныя:

Апроч аселых немцаў, расцярушаных па ўсім абшары дзяржавы (якія толькі на заходніх землях выступаюць шчыльней) і апроч жыдоў, на ўсходзе абшары засялень-

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАСТОЦКІХ БЕЛАРУСАЎ.

Ад бел. дзеяча ў Беластоку мы атрымалі трохі вестак глыбока сынтэзуючых тамашняе невясёлае жыцьцё. Думкі вельмі цікавыя: у іх адбіваецца жыцьцё ня толькі беластоцкіх беларусаў, але і іншых.

„Яшчэ сьвежыя ў памяці нашага грамадзянства некаторыя моманты з жыцьця быўшых беларускіх арганізацыяў. Пустка. якая паўстала пасьля ліквідацыі апошніх, не пазволіла засыпаць пылам забыцьця тых выпадкаў, дзякуючы каторым у значнай меры стварылася ў нас цяперашняе палажэньне. Праўда, няпрыемна і можа ня варта было-б выцягваць з мінуўшчыны тыя выпадкі і падзеі, але ўспамінаем аб іх патолькі, паколькі яны вяжуцца з сучаснасьцю.

Па страце сваіх арганізацыяў, каторыя развіваліся, як на нашы варункі, даволі памысна, беластоцкія беларусы рабілі ўражаньне разьбіткаў на шырокім моры: што чалавек — то кірунак, што адзінка — то іншы спосаб рэагаваньня. Выпешчаны варожымі сіламі культ уласнай грызьні перашкаджаў, і да апошніх дзён перашкаджае, у кожнай спробе і магчымасьці зьліжэньня. Уплыў вонкавых ідэалёгіяў выявіўся на іншых адзінках натолькі вялікім, што бадай няма надзеі, каб гэтыя людзі калінебудзь здабыліся на самакрытыку і паддалі рэвізіі свой сьветапагляд. Ня бачаць яны, што кожны дзень прыносіць запярэчаньне іхным адарваным ад жыцьця вывадам, што аджыўшыя свой век догмы жыцьцё перакідае напавал. Нявымоўным трагізмам вее ад тых характараў, каторым лёс судзіў дасьпець, а потым згніць і асыпацца, як восенскае лісьце... Гэта ахвяры нашага ненармальнага жыцьця — і чалавек мусіць іх шкадаваць.

Ня ўсе аднак да гэтай катэгорыі належаць. Ёсьць і такія, для каторых бязьдзейнасьць роўназначна павольнаму кананьню, перад чым яны і бароняцца, кожны па своему. З іх пэўная група, даволі ўрэшце здольная, ня меўшы дзе падзецца, прыстала да ТУР-у. (ТУР, або „Towarzystwo Uniwersytetów Robotniczych", знаходзіцца пад уплывам ППС — рэд.). Вывучваюць модныя цяпер штукі, як: „Czerwony Wiedeń", „Krew na pustyni" і яшчэ іншыя, ставяць іх у Беластоку і развозяць па правінцыі. І тут трагізм, а можа нават цынізм палажэньня відзіцца ва ўсей сваей нагаце. Бо ведамым ёсьць, якога характару заслугі палажылі яны для б. беларускіх арганізацыяў; ня менш ведамым ёсьць, якімі сымпатыямі дарылі яны ў сваім часе ППС і ТУР — цяпер-жа вокам не маргнуўшы, са скуры лезуць, каб прыслужыцца апошнім. І як гэта назваць?

Арганізацыя ТУР, не гаворачы аб засьцярогах, якія да яе могуць мець беларусы, разьвіваецца, дзякуючы ўвайшоўшым у яе беларускім сілам, якія аднак кіраўніцтвам ТУР-у не трактуюцца як прыязныя, але як варожыя. паміма ўсяго стараньня гэных бел. сіл. Тымбалей трэба дзівіцца заяўленьням гэных янычараў (інакш іх назваць трудна!), заяўленьням, якімі яны хочуць апраўдаць сваё ідэолёгічнае банкроцтва: „Мы, маўляў, пралетары, і сваё месца знаем". Значыць, кідаюць „левыя" фразы і зярняты „рэвалюцыйнай" сьведамасьці ў масы, забываючыся аб тым, што цаною чужых клічаў і чужога павадырства здраджаюць сваю мінуўшчыну і свой народ! Вось гэтае доўга шуканае і наканец знойдзенае „месца" і азначае іхныя адносіны да ўсяго, што завецца беларускім! Ад аднаго „сувэрэна" перайшлі да другога, якога даўней ругалі на ўсе лады, а цяпер верна служаць! А сваю беларускую справу і працу для свайго народу завуць фашызмам, нацдэмаўшчынай, здрадніцтвам, так як вывучыліся ад папярэдніх і цяперашніх „сувэрэнаў". Ці гэта ня цынізм, злучаны з трагізмам? Цынізм палажэньня гэтых людзей ляжыць у іхным самаапраўданьні, а трагізм — у іхным янычарстве, у іхнай службе чужым людзям і чужым ідэям. Гэты трагізм павялічваецца тым, што яны **гінуць** для свайго народу за чужыя ідэі і чужыя інтарэсы. Але гэтакая ўжо доля ўсіх янычараў!

У канцы мушу адзначыць, што ў Беластоку ёсьць ня толькі тыя, што адпалі ад беларускай работы, як ад дзераваў восенскае лісьце; ня толькі тыя, што пайшлі на службу ў ТУР, але ёсьць і такія, якія дзяржацца беларускага нацыянальнага кірунку. Гэтыя стараюцца ўзнавіць беларускую работу і працаваць не для чужых, але для свайго беларускага народу".

**Ад Рэдакцыі.** Угледаючыся на такое сумнае жыцьцё некаторых беларусаў у Беластоку, ня трэба Вам падаць духам і траціць надзеі. Трэба ведаць, што праўда і рэальны змысл нашага народу некалі возьмуць верх. Пасярод бел. народу, як у горадзе так і на вёсцы пашырана цяпер чужымі (і некаторымі сваімі) страшэннае баламуцтва, людзі ня ведаюць, куды ісьці і што рабіць. Прыкладам такога баламуцтва можа быць і частка віл. белар. прэсы, якая сама здэзар'ентавалася і ўносіць дэзар'ентацыю ў бел. масы. Аб гэтакіх у народзе кажуць, што „зьбіліся з панталыку". Найгорш тое, што сваю дэзар'ентацыю яны стараюцца апраўдаць.

*Грамадзяне! Пры гэтым нумары „Бел. Фронту" разсылаем „разрахунковыя пераказы". Прыпамінаючы нашу адозву з папярэдняга нумару, просім прыслаць нам сваю складку. Няхай кожны з Вас запоўніць „пераказ", паставіць наш нумар: 100 і яшчэ перад Новым Годам прышле нам сваю помач. Грамадзяне! Супольнымі сіламі зробім „Бел. Фронт" двутыднёвікам!*

## ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ КАНФІСКАТЫ і СУД.

Дня 27.Х.38. Віл. Акружны Суд пацьвярдзіў канфіскату „Бел. Фронту" № 10 з дня 7.Х.38. Канфіската была за артыкул „Суд над рэдактарам „Бел. Фронту", у якім паводле прысуду быў перадрукаваны зьмест сканфіскаванага артыкулу „Бел. Фр." з 5 мая сёлета, што становіць прымету праступку з арт. 305 п. 3. К. К.

Дня 24.XI у Віл. Акружным Судзе адбыўся суд над рэдактарам нашага часапісу кс. В. Гадлеўскім за артыкул „З жыцьця вёскі" („Б. Фр." № 5 з дня 5.V.38). Віл. Гарадзкі Суд за гэты артыкул кс. В. Гадлеўскага (27.IX.38) апраўдаў, аднак пракурор падаў апэляцыю. Віл. Акружны Суд, як другая інстанцыя, пасьля выясьненьняў, дадзеных абвінавачаным, прыхіліўся да матываў першай інстанцыі і кс. В. Г. апраўдаў.

## АДМОВА РЭЕСТРАЦЫІ „БЕЛ. САЮЗУ АБСТЫНЭНТАЎ.

У ліпні сёлета група бел. інтэлігенцыі падала віл. адміністр. уладам статут новай арганізацыі „Беларускі Саюз Абстынэнтаў". Арганізацыя мела на мэце змаганьне з вялікім грамадзкім злом — алькагалізмам. Паводле Статуту арганізацыя мела праводзіць толькі абстынэнцкую працу, вымяжоўваючы ўсякую палітычную акцыю. У матывах адмовы сказана, што арганізацыя не адказвае ўзглядам грамадзкай карысьці, будзе разьцярушваць антыалькагольную акцыю дый наагул у тэрэне ёсьць шмат падобных арганізацыяў, якія змагаюцца за цьвярозасьць. Закладчыкі ад пастановы Віл. Ваяводы адклікаліся ў Міністэрства Унутран. Спраў, матывуючы свой рэкурс наступнымі аргумэнтамі:

1) У віл. ваяводзтве няма ніводнай беларускай арганізацыі, якая-б змагалася з алькагалізмам. Існуючыя ў Вільні польскія арганізацыі з невялікай колькасьцю сяброў ня маюць ніякага ўплыву на бел. масы.

2) Спробы польскіх антыалькагольных арганізацыяў, каб пашырыць абстынэнцкую дзейнасьць на беларускія масы, не давялі да пазытыўных рэзультатаў.

3) Засьцярогі Віл. Ваяводы, выказаныя ў адмове рээстраваць „Бел. Саюз Абстынэнтаў", адносна магчымасьці расьцярушаньня антыалькагольнай акцыі, маюць толькі тэорэтычны характар, бо фактычна, дзеля нястачы адпаведных польскіх арганізацыяў на бел. вёсцы, разьбіваць няма чаго, а проціўалькагольную акцыю трэба вясьці для агульнага дабра. Гэта пацьвярджаецца яшчэ і тым, што польскія проціўалькагольныя арганізацыі ў Вільні аднесьліся да ініцыятывы закладзін бел. т-ва цьвярозасьці вельмі прыхільна, а старшыня польскае проціўалькагольнае арганізацыі „Mens" у Вільні, заслужаны працаўнік у змаганьні з алькагалізмам, праф. Грыневіч, нават падпісаўся пад статутам, як закладчык беларускай арганізацыі.

Спадзяёмся, што Міністэрства возьме пад увагу гэтыя важкія матывы і адменіць пастанову Віл. Ваяводы.

## ТРЭБА ПІСАЦЬ ПРАЎДУ АБ УСІХ.

Пасьля сьмерці д-ра Туронка мы зьмясьцілі кароткую зацемку, што др Т. пасьля скончэньня ўнівэрсытэту быў бязьдзейным інтэлігентам. На гэта „Хр. Думка" адказала, што аб нябожчыках, якія ўжо ня могуць бараніцца, трэба пісаць або добра, або нічога, у імя лацінскае прыказкі „de mortuis aut bene aut nihil". Справа, паднятая „Хр. Думкай" мае прынцыповы характар і дзеля гэтага пасьвяцім ей гэтых пару радкоў.

Наўперад мусім сьцьвердзіць, што гэтая лацінская прыказка (як і кожная прыказка) ня можа быць правілам паступаньня. Мы паставілі сабе правіла пісаць праўду аб усім і ўсіх, жывучых і памёршых — і дзеля гэтага пішам аб людзях тое, на што яны заслужылі. Калі-б дзяржацца гэнай лац. прыказкі, дык пасьля сьмерці людзей ня было-б крытычнага асьвятленьня іхнага жыцьця, ня былі-б выказаны іхныя пахібы, а былі-б толькі пахвальныя гімны, або... пустое месца. Іншымі славамі — ня было-б гісторыі. Аднак усім ведамая рэч, што дзеецца інакш. Пасьля сьмерці кожнага чалавека, які заслужыў на пасьмертны ўспамін, пішацца добра або блага, залежна ад таго, на што той чалавек заслужыў. Гэтакім чынам творыцца гісторыя. У кожнай гісторыі (біографіі) чалавека падаюцца ня толькі добрыя праявы ягонай дзейнасьці але і дрэнныя. Мы гэтак і паступілі з др. Туронкам. Калі-б апісваць толькі добрыя чыны нябожчыка, дык біографія яго была-б аднабокая (гэтакая аднабокасьць часта спасьцерагаецца ў артыкулах, якія зьмяшчаюцца ў „Хр. Думцы"). Тыя довады, якія „Хр. Д." высоўвае ў абароне дра Т. (чытаньне бел. прэсы і гутарка з дзяцьмі пабеларуску і іншыя) яшчэ не пераконваюць, каб на падставе гэтакай „дзейнасьці" лічыць бел. інтэлігента дзейным. Уважаем, што, каб пісаць аб такім ітэлігенця ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў твораць вялікія замкнутыя прасторы. На паўднёвым усходзе на абшары верхняга Сану і Вяпра, у вялікай часьці Бугу і на поўнач аж па за Палесьсе — жывуць украінцы на прасторы, абыймаючым болей як адну траціну агульнай паверхні Польшчы (каля 137 кв. км.: 55 прац. украінцаў, 16 прац. палякоў, 15 прац. жыдоў). На поўначы між Палесьсем і верхнім бегам Нёману, а стуль на поўночны ўсход аж у раён Вільні, на прасторы амаль 100.000 кв. км. жывуць беларусы ў пераважаючай большасьці (80—90 прац.).

„Падсумуем гэтыя даныя, адыймем ад паверхні ўсяе Польшчы, дык праканаемся, што палякі ў ліку вышэй 44 прац. жывуць адно на прасторы каля 150.000 кв. км. і то памяшаныя з жыдамі і немцамі. Яшчэ трохі больш адвагі ў апэраваньні цыфрамі і ў надужываньні цярплівасьці паперы, дык акажацца, што палякі становяць толькі малы астравок у моры іншых народаў.

„Апроч гэтых і гэтым падобных цыфраў п. Доубэк ахвотна карыстаецца картамі, адпаведна дабранымі і сабою перапрабленымі. Умее нагнуць да сваіх мэтаў трохі „папраўлены" афіцыяльны сьпіс насельніцтва з 1931 году. Бярэ проста кажучы пад увагу толькі такія раёны за польскія, дзе палякі становяць болей як 50 прац. насельніцтва на вялікіх абшарах. Апроч гэтага праз графічны ўклад карты аўтар падсоўвае думку, што паза гэтымі вялікімі абшарамі рэшта земляў ёсьць няпольская — хоцьбы на іх палякі тварылі астравы з абсалютнай большасьцю або тварылі большасьць адносную, як напр. хоцьбы было 49,9 прац. палякоў, 15 прац. жыдоў і 35 прац. украінцаў і русінаў.

„Гэтым высновам уторацць іншыя аўтары. Між іншым у гэтым самым „Jomsburg'у п. Т. Шэдэр стараецца гістарычна выказаць, што землі на ўсходзе не належацца Польшчы, што польскія апэтыты расьлі ў меру ўзросту дзяржавы і г. д.

„Шкада друкарскае фарбы, каб даўжэй займацца гэтымі праявамі нацягнутай статыстыкі і гісторыі. Ідзе толькі аб само схарактэрызаваньне акцыі. Успомненая прапаганда відавочна паддаецца ільлюзіям, што сваею папяровай работай ашукае кагось, хто не ар'ентуецца ў польскіх справах. Але бязсумліву пасярод незар'ентаваных у праблеме чытачоў можа выклікаць памылковае разуменьне польскіх справаў. І дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу на канечнасьць мэтнага проціўдзеяньня як з боку польскай публіцыстыкі так і польскае навукі.

„Супроць бязьсільным прапагандыстычным высновам Польшч ёсьць нацыянальна шчыльным краем на аграмадным прасторы і штораз болей пруткім (prężnym). Гаспадарчы і нацыянальны развой польскіх сіл узмагаецца і будзе ўзмагацца стала, а разыходжаньне праменьняў польскай культуры ідзе далей дзяржаўных граніц. Гэта ёсьць вымова фактаў, якіх ня зьменяць — папяровыя кулі нацягванай статыстыкі".

Гэтак піша „Polska Zbrojna". Перадрукавалі мы гэты артыкул увесь, нічога не выкідаючы і не скарочваючы, дык у ім ёсьць і пагляды „Polski Zbrojnej".

Свайго пагляду на гэныя карты мы ня можам выказаць дзеля адсутнасьці іх у Польшчы. А варта было-б, бо яны закранаюць і беларускую праблему і этнаграфічную тэрыторыю. Можа-б хто з заграгічных беларусаў прыслаў нам аб іх свае ўвагі? Вельмі былі-б удзячны! Пасьля атрыманьня дакладных вестак мы займем адносна іх сваё становішча.

А. Б.

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Месяц лістапад прайшоў пад знакам дыпляматычнай ігры каля Карп. Украіны (аб чым пішам на іншым месцы) і пад знакам палітычных **паразумленьняў,** якія нясуць нам новы палітычны ўклад эўропэйскіх сіл. Наўперад трэба зьвярнуць увагу на такія паразумленьні, якія пры даўнейшым укладзе палітычных сіл выдаваліся немагчымымі, іменна, паразумленьне **польска-савецкае,** якое ўжо сталася, і **польска-літоўскае,** якое наближаецца шпаркімі крокамі. Апроч гэтага будзе падпісана паразумленьне **нямецка-францускае.** Усе гэтыя паразумленьні маюць вялікае значэньне, бо дзеляць сьвет.

Апроч паразумленьняў маем яшчэ вострую нутраную барацьбу ў Францыі, дзе ўрад змагаецца з „людовым“ фронтам, і ў Румыніі, дзе ўрад ліквідуе прыхільнікаў фашызму. У Гішпаніі пасьля перамогі франкістаў над ракою Эбро (рэспубліканцы былі выцісьнены за раку), ціха. Таксама ціха ў Кітаі, толькі ў двух пунктах адбываліся гарачэйшыя бітвы: каля Кантону, які кітайцы стараліся адабраць ад японцаў, але без рэзультату, і на поўначы, дзе японцы імкнуліся перарэзаць апошнія шляхі, якія лучаць Кітай з Саветамі, каб спыніць савецкую помач, але таксама без рэзультату. Апроч гэтага адбывалася жорсткая расправа з жыдамі ў Нямеччыне, як помста за забойства ўрадаўца нямецкага пасольства ў Парыжы, фон Рата. У Палестыне паўстаньне арабаў прыціхла. Труда згадаць, з якой прычыны: ці з тэй, што Англія здушыла яго пры помачы змотарызаванай арміі (танкаў, бранявікоў і арапляпаў), ці таму, што Англія пайшла на ўступкі і адступіла ад пляну падзелу Палестыны і паклікала жыдоў і арабаў у Лёндын на канфэрэнцыю. Канфэрэнцыя мае ў скорым часе адбыцца.

Яшчэ на адну праяву трэба зьвярнуць увагу: Нямеччына годзіцца з Францыяй і адначасна завастрае адносіны з Англіяй (з прычыны жыдоў), а Італія годзіцца з Англіяй, а завастрае адносіны з Францыяй... Да таго дайшло, што на паседжаньні італійскага парляманту некаторыя фашыст. прадстаўнікі дамагаліся ад Францыі звароту Тунісу і Корсыкі, чым выклікалі завастрэньне і так вострых адносін паміж Італіяй і Францыяй. Нямецкая-ж прэса нападае на Англію за тое, што яна ўмешваецца ў нямецка-жыдоўскую калатню, пры гэтым нямецк. прэса піша, што Англія ня лепш адносіцца да арабаў у Палестыне... Выглядае, што Нямеччына хоча адцягнуць ад Англіі Францыю, а Англія ад Нямеччыны Італію. Ігра вельмі цікавая. Трэба за ёю пільна сьлядзіць, „Słowo“ піша, што калі Італія гадзілася з Англіяй, то Ням. сварылася з гэтай Англіяй, хочучы каб яна ўступіла як найболей Італіі; а калі цяпер Нямеччына годзіцца з Францыяй, дык гэту апошнюю сварыць Італія, дамагаючыся Тунісу і Корсыкі, гэтым прымушаючы Францыю ісьці на ўступкі перад Нямеччынай! Словам — Італія і Нямеч. памагаюць сабе нават сварачы пачарзе сваіх ворагаў!

## ПАРАЗУМЛЕНЬНІ.

**Польска-савецкае.** Яшчэ добра помнім факт, калі ў сувязі з падзелам Чэхаславаччыны Саветы грозілі Польшчы сарваньнем пакту ненападаньня. Цяпер справа прадстаўляецца інакш: пад пагрозай з боку Нямеччыны, якая зьяўляецца небясьпечнай як для Польшчы так і для Саветаў, абедзьве дзяржавы дагаварыліся прадоўжыць пакт ненападаньня да 1945 году, павялічыць паміж сабою гандлёвыя абароты і наладзіць добрасуседзкія адносіны. Пакт гэты мае ў сучасных палітычных абставінах вялізарнае значэньне. Ацаніць гэтае значэньне зможа толькі будучыня.

**Польска-літоўскае.** Пад гэтайжа нямецкай пагрозай адбываецца хоць павольнае але сыстэматычнае зьліжэньне паміж Польшчай і Літвою. Дыпляматычныя зносіны паміж абедзьвома дзяржавамі былі навязаны ў ведамыя сакавіковыя дні, калі Польшч паставіла Літве ўльтіматум. Аднак адносіны былі нацянутыя далей, бо Літва не давярала Польшчы, дый за 20 гадоў стварылася з прычыны Вільні такая атмасфэра, што дайсьці да згоды трудна было. Пасьля-ж заявы мін. Бэка, што Польшч не дагаварывалася з Нямеччынай аб падзеле Літвы, Літва пад нямецкім націскам на Клайпэду, зрабіла крокі да паразумленьня з Польшчай. Разьвязала „Саюз Вызваленьня Вільні“ (матывуючы тым, што пасьля навязаньня зносін спрэчныя справы могуць быць вырашаны дарогай дыпляматычнай); пачала з Польшчай гутаркі аб гандлёвым трактаце (гутаркі адбываюцца ў Коўні); маюць быць падпісаны дагаворы аб меншасьцях: польскай у Літве, а літоўскай у Польшчы. Польскі ўрад даў дазвол на закладзіны новага Літ. Нав. Т-ва і Літ. Музэю ў Вільні. Загадковай ёсьць толькі ў гэтай справе раптоўная і неспадзяваная дымісія (3.XII.38) літ. міністра загр. спраў Лозарайтіса. Чаму ён уступіў? Ці таму, што напаткаў у сваім народзе супраціўленьне адносна сваёй палітыкі, ці таму, што Літва пашукала іншых дарог і іншых саюзаў, скажам, з Нямеччынай? Усё гэта неясна, але найбліжэйшыя дні гэту справу выясьняць. Літве асталіся цяпер два выхады: або далучыцца да польска-савецкага паразумленьня, або да нямецка-італійскага. Жывучы паміж двома волатамі, трудна захаваць нэўтральнасьць, як гэта выказваюць прыклады іншых дзяржаў. Куды далучыцца Літва? Ад яе становішча шмат залежыць уклад палітычных і стратэгічных сіл Усх. Эўропы.

**Сусьветныя паразумленьні.** Польская прэса (гл. „Кур. Віл.“ 4. XII.) прыносіць сэнсацыйныя весткі аб вайсковым пакце трыкутніка Бэрлін-Рым-Токіё. Паводле пакту кожная дзяржава забавязваецца нясьці помач другой і не заключаць аддзельнага міру. Пакт быццам меў быць падпісаны ў гэтых днях, але адложаны на потым, на просьбу Італіі, каб не ўтрудняць ей перагавораў з Англіяй. Процiў гэтага трыкутніка мантуецца другі: Лёндын-Парыж-Вашынгтон, які магчыма прыцягнуўбы да супрацоўніцтва і Маскву. Гэтакім парадкам станавяцца процiў сябе два вялізарныя блёкі, у сусьветным маштабе.

**Няма супакою.** Англ. газэта „Манчэстэр Гардіян“ піша вельмі пэсымістычна аб будучыне міру ў Эўропе. Канфэрэнцыя ў Мюнхэне не прынясла ўспакаеньня. У сярэдняй і ўсходняй Эўропе яшчэ большая няпэўнасьць, чым была перад гэтым. Немцы пашыраюць свае ўплывы на ўсход. Канец польска-нямецкай дружбы ўжо відаць. Палякі горка разчараваліся, наткнуўшыся на ўпор немцаў у справе супольнай граніцы з Вугрыяй. У блізкай будучыне можна прадбачыць небясьпечнае перасіленьне ў польска-нямецкіх адносінах. Стварэньне незалежнай Украіны каля граніц Польшчы будзе ўступам да выкананьня пляну, які Гітлер стварыў з мэтай разбору і калянізацыі Расеі. У выпадку канфлікту польска-нямецкага Расея з канечнасьці ўмяшаецца ў яго. Немцы праканаы, што Расея бязьсільна. Далей ідуць такія чорныя прадбачаньні ў узаемных адносінах Польшчы і Нямеччыны, што ўсяго перадаць ня можна, як адзначае „Warsz. Dziennik Nar. (Nr. 327). Узялі мы гэтыя весткі з укр. „Новоі Зорі“ (1. XII.).

## ЗАГАДКОВАЕ СТАНОВІШЧА РУМЫНІІ.

У справе Закарп. Украіны і наагул у палітыцы ўсх. Эўропы Румынія займае вельмі загадковае становішча. Падарожа рум. караля ў Лёндын (быў запрошаны туды англійскім каралём), а потым у Бэрхтэсгадэн (да Гітлера) мела выясьніць пытаньне, з кім пойдзе Румынія — і аканчальна ня выясьніла. Пасьля гутаркі з Гітлерам было выдана паведамленьне аб магчымасьцях **гаспадарчага** супрацоўніцтва з Нямеччынай (за земляробскія прадукты і нафту Нямеччына дастаўлялаб у Румынію фабрычныя вырабы), але аб **палітычных** рэзультатах гутаркі ў Бэрхтэсгадэн ня выдана ніякага камунікату. Адно яснае ў падарожы рум. караля: **шуканьне апірышча на Захадзе для румынскага палітычнага і гаспадарчага жыцьця.** Румынія пойдзе з тым, хто ёсьць у сіле забясьпечыць ёй дзяржаўнае і гаспадарчае бытаваньне. Цяпер выглядае, што Рум. баіцца Вугрыі і ейных прэтэнсіяў да Семіградзьдзя; ня хоча быць адрэзанай ад Чэхаславаччыны (дзеля гэтага выступае процiў далучэньня Закарпацьця да Вугрыі і процiў супольнай вугорска-польскай граніцы); жадае праз Чэхаславаччыну мець доступ да Нямеччыны, куды маглаб высылаць земляробскія прадукты (выгаднейшага рынку Румынія ня мае) — ўсё гэта скланяе яе ў бок Нямеччыны.. Мусіць дзеля гэтай прычыны часьць румынскай прэсы пачала злосна нападаць на Польшч і варажыць ёй усякія нешчасьці. На гэту пісаніну зьвярнуў увагу „Kurjer Poranny“ (6. XI. 38), які ў артыкуле „Wybryki prasy rumuńskiej“, піша, што хоць Рум. ёсьць зьвязана з Польшчай саюзам, а ўсёжтакі нядаўна польскі амбасадар у Румыніі мусіў пратэставаць процiў напасьцяў рум. прэсы на Польшч. Якія-ж гэта напасьці? „Kurjer Por.“ піша, што рум. часапіс „Нэалкуль Романэск“ закідае міністру Бэку двуліцовасьць. „Гэта двуліцовасьць мае праяўляцца ў тым, што мін. Бэк з аднаго боку ўпэўняе Румынію пра дружбу, а з другога боку імкнецца да падзелу Карп. Украіны, каб здабыць супольную граніцу паміж Польшчай і Вугрыяй“.

„Але на гэтых галасох ня канчыцца нездаваленьне румынаў — піша далей „Kurjer Por.“. Вось-жа некаторыя часапісы пазваляюць сабе ставіць цьверджаньні, што па справе Чэхаславаччыны прыйдзе цяпер чарга на Польшч. Пасьля вырашэньня пытаньня Чэхаславаччыны — пісала другая румынская газэта „Момэя Романіска“ — будуць хутка высунуты іншыя справы, як каленіі, Гданск, паморскі карыдор, украінцы. Набліжаецца цяпер для Польшчы падобная „разгрыўка“, якую перажыла ў апошнім часе Чэхаславаччына, але ў значна большым разьмеры“. Гэтак піша „Kurjer Por.“. У адказ на гэтыя напасьці рум. прэсы, „Kurjer Por.“ заяўляе, што Румынія мае свае труднасьці, якія ёй гразяць рознымі камплікацыямі...

У канцы лістапада пачаліся тэрорыстычныя выступленьні процiў ураду румынскай „Жалезнай Гвардыі“, прыгэтым было забіта некалькі асоб, зьліжаных да ўраду. (Жалезная Гвардыя — гэта рум. фашыстоўская арганізацыя, зьліжаная да гітлероўцаў). Пры перавозе павадыроў „Жал. Гв.“ у ліку 14 чалавек з аднаго вастрогу ў другі, яны быццам прабавалі ўцякаць, прыгэтым канвой перастраляў іх усіх, на чале з ведамым павадыром „Жал. Гвардыі“ — Кодрэану. Гэты факт выклікаў у Румыніі і ўсім сьвеце вялікае ўражаньне. Віл. прэса слушна адзначае, што румынскія жандармы добра ўмеюць страляць: паміма ночы, ніводзін вязень ня ўцёк, ніводзін нават ня быў ранены, а ўсе забіты... Кажуць, што ў Румыніі ідзе змаганьне паміж Нямеччынай і Англіяй! Цікава, куды пахіліцца Румынія?



**Рэдактар: мгр. В. Гадлеўскі.**

це пахвальныя словы, трэба каб ён заслужыў на іх сваей **грамадзкай дзейнасьцяй,** якой нажаль др Т. пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту не праяўляў. Аб гэтым усім ведама. Урэшце, калі ўжо тасаваць тую лац. прыказку, што аб умершых або добра, або нічога, дык, на наш пагляд, толькі ў часе паховін, пры разьвітаньні, пры ладжаньні ўспамінаў, словам перад воблікам сьмерці. Заўсёднае-ж тасаваньне гэтай прыказкі ўжо дрэнна сьведчыла-б аб нябожчыку.

Уважаем, што пісаньне праўды аб нябожчыках мае вялікае моральнае і ўзгадаваўчае значэньне для жывучых! Наадварот, пісаньне пахвальных гімнаў без праўдзівых заслуг уплывае дэмаралізуюча.

## ЗАБАРОНА І ВАРУНАК.

Дня 1.XII.38. мелася адбыцца Акадэмія з прычыны 950-годзьдзя прыняцьця хрысьціянства ўсходнімі славянамі. Праектаваліся два рэфэраты на тэму значэньня гэтага юбілею: адзін рэфэрат меў чытаць В. Багдановіч (у расейскай мове), а другі — С. Паўловіч (у беларускай мове). Апроч гэтага меўся выступаць хор Р. Шырмы з адпаведным рэпэртуарам песьняў. Аднак адм. улады на Акадэмію дазволу не далі, матывуючы гэта прычынамі публічнай бясьпечнасьці.

Дня 4. XII, меўся адбыцца канцэрт Забэйды-Суміцкага з рэпэртуарам песьняў польскіх, беларускіх, літоўскіх, расейскіх і італьянскіх. Адм. улады паставілі варунак, што ў рэпэртуары могуць быць песьні толькі польскія і італьянскія. Забэйда-Суміцкі на гэты варунак не пайшоў і канцэрт не адбыўся.

Як мы чулі, канцэрт Забэйды-Суміцкага і хору Р. Шырмы адбудзецца ў залі Віл. Унівэрсытэту дня 11. XII. вечарам.

—·—

Redaktor: mgr. W. GODLEWSKI. Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, Mickiewicza 22-a, m. 30. Wydawca: W. PAPUCEWICZ.